Годъ I.—1913. Кастрычнік 17 книжка.




# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

На выстауцэ насеньня у Вільні у лютым 1913 г. „Саха“ за стацьі аб насеньнях дастала
**СРЭБНУЮ МЭДАЛЬ.**

Падпісная цана на 1 год 1 р. 20 кап. на 6 месяцоу 60 кап., за перамену адрэсу 20 кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: ~~Вільня Віленская~~ 29.



Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсца у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам 40 к., за тэкстам 20 к. За разсылку рэклям пры месячніку вагой да 2 лотоу 7 руб. ад тысячы

**Цэна асобнаго нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

САХА
ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК
СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

# Чы можна пасьвіць жывёлу на руні?

Па лепшых землях і ў добрых гаспадароў часто бывае, што заўчасу пасеянае жыто, ды ешчэ пры доўгай і цёплай восені—моцна рунее. Баючыся, каб яно ня выпрэло пад сьнегам, гаспадары гэткую рунь найчасьцей спасываюць жывёлай. Каб разабрацца, чы такое спасываньне руні бароніць яе ад выпрэваньня, трэба ведаць прычыны, чаму іншым разам добрая рунь з восені—на вясну—с пад сьнегу выходзе пажаўцеўшая, або нават пабурэўшая.

А прычыны бываюць вось якіе. Кожная расьліна, як вядома, жывіцца ад сваіх карэньчыкоў і ад воздуху. Захопліваючы некаторые газы з воздуху, частку з іх яна перэдае сваім карэньням, без чаго гэтые так сама не магліб жыць і развівацца ў зямлі. А карэньчыкі высмоктываюць з зямлі пажыўные іе часткі і перэдаюць расьліне. Чым гэтых пажыўных частак будзе больш у зямлі, тым расьліна будзе шыбчэй і буйней расьці.

Разросту руні спрыяе доўгая цёплая восень і толькі холад і маразы, каторые замарожываюць землю, стрымліваюць гэты рост. Але бывае, што сьнег ляжэ зусім на незамершы грунт, тады ў гэткай зямлі карэньчыкі праз некаторы час ешчэ жывуць і пасылаюць свой пасілак на верх—расьліне; каб спажыць гэты пасілак, рунь патрабуе воздуху, которага, выпаўшы сьнег, як раз не дапушчае; дык вось дзеля гэтаго расьліна пад сьнегам душыцца, а яе лісточкі, пекная зяляніна каторых бывае толькі дзякуючы слонцу і воздуху—траціць свой коляр, робіцца жоўтай, або бурай і прападае.

Чым лепшая рунь з восені, тым болей яе можэ зглуміцца пад сьнегам. Ды гэта і зусім зразумела: чым буйнейшая рунь, тым больш яна вымагае для свайго жыцьця воздуху, катораго сьнег да яе не прапушчае. Дык каб зьменшыць патрэбу воздуху для расьлін, дзеля гэтаго і пушчаюць жывёлу на рунь, каб яна пазгрызала яе, або проста скошываюць рунь; бо як адно, так і другое, як паказала практыка, стрымлівае разрост усяго кусьціка расьліны, дык і лягчэй яму будзе абыйсьціся без воздуху.

Каб жэ ведаць што лепей: чы спасьвіць рунь, ці скасіць яе, прыглядзімся добра да самой расьліны.

Раскручываючы асьцярожна лісьцік за лісьцікам кусьцік руні,—мы нойдзем у сярэдзіне яго чутачку выжэй грунту ўжо зачатак будучаго калосіка. Калі гэткі калосік жывёла, пасучыся, сашчыкне, ці моцна падратуе, або, косячы, зачэпе яго

каса, то на яго мейсцы ўжо ніколі добры колас не адрасьце, дык разумеецца, і ураджаю добраго нельга спадзевацца.

Коні і авечкі, як вядома, скубуць рунь пры самай зямлі; значыцца аб пашы для віх на руні ня можэ быць і гутаркі. Скаціна, калі доўга не трымаць яе на адным мейсцы, а толькі перэганяць, соскубывае сьперша толькі вярхі, але за тое шмат грузе, а і не мала вырывае кустоў руні, асабліва, калі земля слабая, разам с карэньчыкамі. Дык найлепш ніякай жывёлы на рунь не пушчаць, а калі хочэм стрымаць яе рост, то скасіць і то асьцярожна — толькі самые вярхі, каб не пакалечыць зарадзіўшыхся калосікаў.

**А. Вілецкі.**

---

## Не барануйце таго, што на зіму загаралі.

Некаторые людзі кажуць, што земля с часам можэ выпаласкацца і перэстане зусім радзіць, бо ня будзе ў ёй тых пажыўных, патрэбных для узросту расьлінаў частак.

Зусім дарэмны страх. Трэба толькі ведаць, як хадзіць каля ральлі, дык ня толькі будзе яна радзіць заўсёды, але і сам ураджай пачне з году ў год павялічывацца.

Земля—гэта наш сьвіран, с катораго, абы толькі умеючы, усьцяж можна карыстаць.

Перш-на-перш павінны мы памятаваць, што калі кладзем гной на зямлю, то як бы хутка яго не загаралі і не засеялі на ім расьліны—ўсё-ж ткі с першаго году гэта расьліна усіх сокаў з гною сабе не забярэ і часткі яго трапляюць у глыб зямлі.

Лежучы там, ніякай карысьці для збожа яны ня прыносяць. Дык вось, каб іх выкарыстаць, трэба іх вывярнуць на верх, дзеля чаго ворка на зіму павінна рабіцца глыбокая -- на якіх 8—10 цалеў, не зважаючы на тое, што гэткім парадкам дастанем дзікай зямлі, гэтаго ня толькі баяцца нечаго, але як раз і ёсьць найважнейшая рэч пры зімовай ворцы.

У гэтай дзікай зямлі і знаходзяцца тые пажыўные часткі для расьлінаў, каторые сперша былі трапілі у глыб грунту. І вось толькі цяпер, калі яны праз даўжэйшы час пралежаць на вярху т. е. праз усю зіму — пад сілай паветра і марозаў заменяюцца бытцам у розные солі, каторые на вясну — ў вільгаці і вадзе распушчаюцца; вось з гэтых распушчаных солей ужо лёгка карыстаць будучым расьлінам.

Чым болей будзе у зямлі распушчаных солей, тым, разумеецца, можна спадзевацца лепшаго ураджаю, а болей будзе іх тады, калі большы абшар грунту будзе знаходзіца пад сілай паветра і вільгаці.

Вось цяпер хіба зразумела, чаму на зіму баранаваць нельга. Выгладзіўшы бараной ральлю, мы гэтым самым зьменшаем абшар яе, каторы не пападзе ўжо пад работу паветра, бо ўсе скібы будуць паразбіваны і засыпаны.

І ешчэ ёсць прычына, дзеля чаго баранаваць ральлі не варта. Лежучы праз зіму у скібах, паміж іх набіваецца больш сьнегу, праз гэта на вясну астаецца больш вільгаці, каторая так патрэбна для распушчаньня тых солей, а каторых мы вышэй ўспаміналі.

П. М.

---

# Што рабіць, каб гной быу тлусьцейшы.

Цяпер—перад зімой кожны гаспадар вывозіць с сваіх хлявоў гной да чыста, каб больш праз зіму магло яго стоўпіцца у хлеве—пад страхой, бо вядомая рэч. што толькі гэткім спосабам гной найлепш пераховываецца.

Ачысьціўшы хлеў ад гною да голай зямлі — застаецца важнае пытаньне: чым-жэ выслаць сам спод хлева?

Разумеецца, тут ідзе гутарка толькі о такіх хлявох, каторых спод ані брукованы, ані выбіты глінай, ці цэглай, або цэмантам і т. п., словам — у каторых спод — голая земля.

Найбольш вядзецца ў нас такі звычай, што высьцілаюць саломай, бо, як кажуць, пасьля, выбіраючы гной, лепш ён адстае ад зямлі. Высьцілаюць ешчэ дзеля гэтай самай прычыны і яловымі лапкамі.

Як адзін, так і другі спосаб вельмі шкодны для самога гною, бо праз такую падкладку надта лёгка працэджываецца сам клёк і сіла гною — гнаёўка—ў ніз, дзе яе ўцягівае земля, а гной астаецца сухі. А тут як раз уся справа ў тым, каб гэта гнаёўка ані непрападала, бо толькі тады будзем мець тлусты гной.

Некаторые гаспадары прабавалі на спод хлеву тоўста насыпаць пілавін, каторых цяпер не так трудна дастаць, бо тартакоў усюды хапае, больш як трэба; але паказалося, што гэта мала памагае, бо праз пілавіны хоць менш, але ўсё-ж гнаёўка працягівае.

Але вось аднаму гаспадару — ці то з розуму, ці з бяды прышла думка выслаць спод свайго хлева *мяліньнем і кастрой* ад лёну і каноплёў.

І што-ж паказалося? На вясну, калі прышлося вывазіць гной, ажно сам гаспадар дзівіўся, што ніколі такога тлустаго не сабраў, як за гэту зіму, хоць скаціну сваю ані крыху ня лепш карміў, як і ў мінулые гады.

А дзіва тут вялікаго німа. Знаная рэч, што кастра і мяліньне, зімуючы нават на дварэ, толькі чуць—чуць зьверху нацягне вады, а ў сярэдзіне сухутанька.

Ды ешчэ лепшы маем прыклад на тых стрэхах, каторые латаюць нашы селяне гэтым таварам: дзе ляжыць мяліньне і кастра—вада ані капне.

Значыцца як мяліньне, так і кастра не ўцягівае, не дапушчае да сябе вады. Тое самое зрабілося і у хлеве: высла-

ны мяліньнем і кастрой спод не дапусьціў у ніз гнаёўкі і яна ўся засталася у гнаі.

Вось і ўся прычына тлустасьці гною.

Наклад і фатыга, як бачым, не вялікіе — варта папробаваць!

**Крук.**

*Дзісна. Віл. губ.*

*Ад Рэдакціі.* Прызнаючы раду Крука за добрую, аднак трэба ешчэ дадаць, што гнаёўка прападае ня толькі праз сам спод хлева, але часта сьцекае яна на бакі яго, а то і выпаровываецца ў паветра.

Каб усю яе затрымаць, трэба канешна гной час ад часу перасыпаць торфам, сухімі купінамі, а з бяды — хоць бы і пяском.

---

# Каза — кароука бедака.

Уселякіе вандроўные народы ў стародаўные векі у сваіх стадах трымалі вельмі карыстную, малавымагаючую і няпераборліўую ў ядзе—казу. І цяпер усходніе народы любяць разваdзіць козаў. Нашы мястэчковые жыды, як найбяднейшые мейсцовые жыхары, каторым німа змогі нажыць і утрымаць кароў, ахвотна гадуюць козы.

Культурные гасударствы за апошніе дзесяткі гадоў зьвярнулі ўвагу на вялікае значэньне гадоўлі казы і усімі сіламі стараюцца гэтые думкі шырыць паміж бяднейшаго народу У суседней з намі Нямеччыне за апошніе часы число козаў узрасло да дзесяці мільёнаў штук, а авечак гадуюць што раз менш.

Козаў асабліва выгодна гадаваць у гарыстых мейсцах, на выганах, паросшых сухой, горкай травой. Козы ахвотна жуюць галінкі, абгрызаюць лісточкі ўселякіх кусьцікоў. У нас апрача гэткаго корму, ёсьць для ніх і лепшы: сена, розные травы, лісты, яловые галінкі і т. д., дык і гадоўля козаў у нас прыгодна і добра магла-б разрастацца.

Хоць каза і непераборлівая на яду, але чым лепшы даглёд і выгоду будзе мець, тым, разумеецца і большая ад яе будзе карысьць. Там, дзе жывёла стаіць у хлеве без страхі, па калены ў балоце, дрэнна і неакуратна корміцца, нельга спадзевацца на добры даход ад ніякай жывёлы, а тым больш думаць гадаваць якіе колечы лепшые гатункі яе, бо яны заўсёды бываюць далікатнейшые.

На пачатак мы павінны зьвярнуць увагу на мейсцовые гатункі козаў, выбіраючы с паміж іх раслейшых і складнейшых і пакуль што заняцца гадоўляй гэтаго гатунку, як болей ужо прытасаванаго і асвойчанаго с тутэйшымі варункамі жыцьця і клімату.

Злучаць козы трэба не маладзейшых васьмі месяцоў; час злучкі бывае с палавіны жніўня да палавіны кастрычніка. Казла прыпушчаюць да казы па разу праз два дні. Здатные для расплоду казлы бываюць да 6 гадоў, а козы — да 8—10 гадоў. Носіць каза 5 месяцоў (154 дні); казлянё астаецца пры матцы ад 6—13 тыднёў, але с чацьвертаго тыдня ужо трэба яго пачынаць адсаджываць і гэтак рабіць до другога месяцу і прыкормліваць цёплым пойлам з аўсянай мукі, льняных і канапляных жмыхаў; прыучаць, даючы па крысе, да сена.

Каза доіцца ад 6-ці да 10-ці месяцоў. Зімой даецца корм, лічучы што дня на кожную штуку, гэткі: 6 фунтаў буракоў, ці бульбы, або кормнай морквы; 2 ф. сена, 3 ф. вотрубаў і поў фунта мукі. У летку: 3 ф. сена, 3 ф. вотрубаў і 10 ф. зяляніны. У корм трэба дабаўляць крыху солі, і задаваць яго разы 3—5 па крысе у дзень. На сенажацях казу можна навязываць, але не на доўга—ня болей, як на гадзіны дзьве. Замест утрыманьня аднэй каровы, козаў гэтым самым коштам можна гадаваць восем штук.

С кожнай простай казы праз год можна мець такі даход:

| | | |
|---|---|---|
| За 826 бутэляк малака по 6 кап. . . . | 49 р. | 56 к. |
| казлёнка . . . | 1 „ | 50 „ |
| гной . . . . . | 2 „ | 50 „ |
| разам | 53 р. | 56 к. |
| Расход на харч каля | 30 р. | |
| Значыцца чыстаго даходу | 23 р. | 56 к. |

Гэткі падрахунак робіць добра знаёмы з гадоўляй козаў сьвядомы гаспадар К. Сакоўскі.

Трэба ешчэ ведаць і тое, што козы менш хварэюць, чым нашы каровы і дзеля таго малако іх куды здаравейшае, а маючы ў сябе шмат тлустасьці і пажыўных частак, вельмі карыстное для дзяцей. Прыкмечэна нават, што паміж тымі, каторые ўжываюць казлінае малако (як напрыклад жыды), менш сухотнікаў, чым паміж тымі, каторые жывяцца кароўім малаком.

Ня толькі ў Нямеччыне, але ўжо па некаторых лепшых расейскіх гаспадарках, козаў трымаюць у вялікай выгодзе: ня толькі стаяць яны ў сухіх цёплых хлявох, ешчэ чысьцяць іх шчоткамі, ад часу да часу мыюць; вымя, нацёршы тлустасьцю, абмываюць яго пасьля цёплай вадой, выціраюць перад даеньнем сухім ручніком і т. п.

*Смаргонь.* **М. Б-н.**

---

# Ці можна даіць карову да самаго ацяленьня?

Шмат каторые с паміж нашых гаспадароў уважаюць за найлепшые такіх кароў, каторых можна даіць ажно да ацялень-

ня; тымчасам гэта вялікая абмылка, бо як паказала навучная практыка—карову нельга ўжо даіць за тыднёў 8, а найменш 6 да ацяленьня; інача́й сама карова будзе слабець, дый цялё прывядзе худое і малое. Доючы карову ажно да ацяленьня, мы аткрадаем у каровы той пасілак, каторы ішоў бы на карысьць узросту самога плоду—целяці.

Дзеля гэтаго кожны гаспадар павінен добра запамятаваць (а ешчэ лепш—запісаць) дзень, у каторы карова апошні раз была пад быком; далічыўшы да гэтаго дня 9 месяцоў і 2 тыдні—мы будзем ведаць час, калі мае ацяліцца карова.

Вось за тыднёў восем перад гэтым часам, хоць бы карова і шмат ешчэ давала малака, трэба яе запушчаць. С пачатку замест трох разоў, даіць 2 разы на дзень; праз дні 3—4 пачаць даіць толькі па разу, а ешчэ праз 3 — 4 дні і зусім перэстаць даіць.

Л. П.

---

## Здаіваньне кароў пасьля ацяленьня.

У селянаў укараніўся звычай здаіваць каровы зараз пасьля ацяленьня, бытцам для здароўя целят. А чаму гэта мае быць здарова целятам—хіба ніхто сказаць не патрапіць. Бачыць толькі другі, што малако у сьвежа ацяліўшайся каровы густое, жоўтае (як у нас называюць яго—малодзіво)—не такое, як звычайнае малако і дзеля таго толькі, робячы розные дагадкі—здаіваюць, каб не даць гэтаго малака целяці, бо можэ зашкодзіць. Дзіўные і сьмешные выдумкі! А хто-ж здаіваў гэтых кароў, калі ешчэ ня мелі яны сваіх гаспадароў, а дзікіе, як цяпер ласі, пасьвіліся і жылі па лясох? А нераз бывае, што і у хлеве карова ацеліцца ў ночы, а то ешчэ і з вечэра і пакуль прыжджэ гаспадара, цялё ўжо нассецца і нічога кепскаго ад гэтаго яму ня робіцца.

Дык калі сама натура дае карове такое малако, як малодзіво,—значыцца яно гэткае і патрэбна, і ня толькі ніякаму целяці ня можэ зашкодзіць, а наадварот—ідзе яму на здароўе. Першае малако маткі мае такую ўласнасьць, што яно развальняе жывот і гэткім парадкам цялё хутчэй шчысьціцца, што канешна патрэбна для яго здароўя.

Малако маткі прытасавана да узросту дзіцяці; дык калі дзеля якіх колечы прычын нават прышлося-б паіць цялё малаком ад іншай маткі, то трэба выбіраць карову сьвежа ацяліўшуюся.

Здаіваньне малодзіва ня толькі шкодна для целяці, але і шкодна яно для самой каровы. Да ацяленьняся—для жывеньня целяці шмат крыві зьбіраецца ў целе каровы каля крыжавіны. Трэба некалькі часу карове пасьля ацяленьня, каб гэта кроў роўна разышлася па ўсяму целу каровы. Праз раптоўнае-ж здаеньне — кроў, моцна хлынуўшы ў жылы вымяні,

дагэтуль сьціснутые паўнатой, напаўняе іх са шкодай для другіх часьцей цела, а асабліва для галавы, бо яны абезкрывеюць; карова тады не устае; ляжыць, як нежывая і прыходзіцца яе лячыць, бо гэта хвароба—так званая—**анэмія** можэ скончыцця дрэнна.

Найчасьцей гэта здараецца з млечнымі каровамі, а ў маламлечных, каторые дрэнные маюць харчы, — хоць радзей, але так сама бывае.

Калі каму прыдзецца здаіваць карову, як цялё хворае, або нежывое, то можна гэта рабіць не раней, як у колькі гадзін пасьля ацяленьня і то не адразу, а за якіе 2 — 3 разы с перэстанкамі у 1—2 гадзіны.

**А. Бэнэцэвіч.**

# Работы у садзе перад зімой.

Як толькі ўсе фрукты ў садзе пазніманы, трэба, доўга не аткладаючы, брацца за абгляд дрэў.

Перш-на-перш, пакуль трымаюцца ешчэ зялёные лісьці, брацца вырэзаць сухіе. паламаные і расшчэпленые галіны: паміж зяляніны іх лягчэй прыкмеціць. Танейшые галінкі можна абрэзаць вострым нажом; таўсьцейшые сукі трэба адпіловываць вострай пілкай; прычым гэткі сук сьперша канешна трэба падрэзаць крыху знізу, бо пілуючы адразу зьверху, яго лёгка можэ адшчапіць і нарабіць шмат шкоды. Рану пасьля пілкі выгладзіць вострым нажом і замазаць.

Другая важная работа перад зімой — гэта аскрэбсьці як сам пень, так і таўсьцейшые сукі ад шурпатай і патрэскаўшэйся кары, пад каторай на зіму шмат хаваецца ўселякіх шкоднікаў для фруктовых дрэў.

Чысьціць дрэвы можна цьвёрдай шчоткай, або дрэўляным нажом, каторы можна зрабіць самому. Выбіраць на гэтую работу найлепш дні пасьля дажджу, чы васеньней імжакі, тады дрэвы куды лягчэй чысьцяцца; мох і ўселякіе наросты трэба аскрэбсьці ня толькі с таўсьцейшых, але і с цянейшых сукоў, бо яны, растучы на дрэвах. жывяцца іх сокам і гэтым аслабляюць і стрымліваюць сам рост дрэваў.

Скрэбсьці трэба вельмі асьцярожна, каб не пазьдзіраць да жывога і не паламаць кароценькіх, тоўсьценькіх сучкоў, бо на іх ужо з восені ёсць завязаўшыйся будучы цьвет—надзея прышлаго ураджаю.

Ачысьціўшы дрэвы, трэба іх ешчэ пабяліць вапнай так высока, як толькі можна дастаць. Робіцца гэта дзеля таго, што вапна забівае ўсіх шкоднікоў фруктовых дрэў і іх зложэные на зіму яйкі, каторые маглі пазаставацца пасьля чысткі дрэў паміж маленькіх шчэлінкаў на карэ. або паміж самых вілак сукоў. Забівае вапна і зачаткі моху і розных наростаў і апрача таго бароніць ад прыпёку слонца, каторае іншым разам бы-

вае пасьля зімовых і веснавых маразоў, ад чаго кара на дрэвах трэскаецца і ўпадае найгоршая хвароба для дрэваў—рак.

Часта, асабліва на старэйшых дрэвах, бываюць дуплы. Дуплы гэткіе найчасьцей робяцца ад неакуратнай, дрэннай абрэзкі таўсьцейшых сукоў, або ад недаглёду, калі сук сам адломіцца і праз даўжэйшы час астаецца неадрэзаны гладка, дый не замазаны. Сярэдзіну такіх дуплаў трэба акуратна ачысьціць ад парахні, забіць шчэбнем і замазаць. Калі мы пакінем на зіму дупло неабгледжаным добра, то туды будзе набівацца дажджу і сьнегу і зацягне гнільлю ня толькі ўвесь пень, але пойдзе гэта гніль ажно ў корні і такое дрэва, хварэючы, не дае добрых фруктаў, або і зусім прападае.

Усю зямлю пад садам на зіму найлепш, непакідаючы ніякіх шпалераў (кватэраў), заараць. Калі-ж дзеля якіх колечы прычын, аручы у адзін бок, гэтак зрабіць трудна, то, заараўшы сьперша ў доўж, прайсьці пасьля с плужком па застаўшайся цаліне ў поперак; гэткім парадкам уся земля ў садзе будзе заарана, застануцца толькі невялічкіе чатырохкантовые кавалкі дзёрну каля самых пнёў дрэва, куды ўжо боязна было падабрацца с канём і плугам, каб не пакалечыць дрэва. Дзёран гэты так сама трэба перэвярнуць, але ўжо рыдлёўкай, высьцерагаючыся, каб не зачапіць тых тоўстых карэнёў, якіе ідуць ад самаго пня блізка пад верхам дзёрну.

У даўнейшых, па старасьвецку саджэных садох, найчасьцей дрэвы бываюць так паразрастаўшыся, што с плугам туды трудна і ўбіцца, не пакалечыўшы самых дрэў. У такіх садох прыходзіцца дрэвы абкапываць, але работу гэту трэба рабіць умеючы—сьвядома.

Найчасьцей па нашых садкох мы можэм пабачыць такую работу: стаіць абкапанае дрэво на якіе поўаршына ўвокал самога пня, ды ещчэ гноем абложэно і... толькі. Гэткая работа нічога нівартa. Пры самым пні ёсць толькі тоўстые карэньні, каторые самі па сабе ніякога пажытку для дрэва не цягнуць з зямлі, а толькі служаць як бы мацункам для яго і пасрэднікамі паміж пнём і самымі драбнейшымі карэньчыкамі, якіе расходзяцца пад зямлёй так далёка, як займаюць галіны цэлаго дрэва.

Хочучы даць пасілак дрэву, трэба зняць на штых дзёран пад тым мейсцам, дзе канчаюцца галіны (тады гэта будзе выгледаць бытцам абаранак у вокал дрэва), пасьля падлажыць у гэты равок добраго гною і, перавернутым у ніз дзёрнам, прыкрыць. Гэтак і пакінуць да вясны. Калі-ж хапае часу і змогі лепш, разумеецца, абкапаць усё дрэва — ажно да пня, але гною каля самога пня, класьці нельга, бо можэ адпарыцца кара.

Костачкавые фруктовые дрэвы, як вішні, чарэшні і розные сліўкі, каб добра радзілі патрабуюць вапны і дзеля гэтаго хоць раз на тры гады ў вокал гэткіх дрэў трэба яе падсыпаць

і пасьля абкапаць. Калі трудна было-б дастаць вапны, то замест яе падсыпаць попялам.

Уселякіе ягадные кусьцікі, як агрэст, парэчкі, маліны найлепш перэсаджываць у восень, бо з вясны яны хутка пушчаюцца ў рост.

Ня трэба чэкаць сьнегу і марозаў з абвязкай дрэў ад зайцаў, бо за цяплом прыступней гэта зрабіць. Абвязываць прыходзіцца ня толькі маладые прышчэпы, але і старэйшые дрэвы, каторые маюць маладую кару на сабе, бо і да іх зайцы дабіраюцца.

Даўнейшы звычай (а і цяпер шмат дзе яго ўжываюць) быў абвязываць фруктовые дрэвы яловымі лапкамі. Дрэнны гэта звычай. Абараняючы ад шкоды дрэвы ў садзе, — мы глумім дрэвы ў лесе, бо елка гэтаго церабленьня сукоў страшэнна баіцца. Аж надта добра можна абвязаць кожнае дрэва кулявой саломай; работа гэта ідзе хутка і гладка, толькі ня трэба жалець пярэвяслоў, каторых можна ў доваль накруціць вечэрамі і доднікамі. На кожнае дрэва трэба даць 3—4 пярэвяслы, але саму салому нельга ставіць ажно на зямлі, але на які корх вышэй, бо інакш пад самым пнём ў саломе гатовы завясьціся мышы і нарабіць ня менш шкоды ад зайцаў.

**Н—зак.**

---

# Як рабіць таннае віно з вішнеу, сліукау і розных ягадау.

У нас нярэдка спатыкаюцца такіе гаспадары, ў каторых ёсць не малы запас розных ягадаў, як, напрыклад, сліўкі, вішні, чорные парэчкі, лясные чарніцы, маліны і т. п.

Іншым разам прадаць іх па сходнай цане—не удаецца: то часу німа ў горад завесьці, то дарога дрэнная, а на мейсцы цаны не даюць. або і зусім купцоў німа, дык так гэты тавар і марнуецца. А тым часам, можна усё гэта выкарыстаць у інакшы спосаб і мець ня толькі выгоду для сябе, але прырыхтаваць з гэтых ягадоў добры, смачны і ходкі тавар на продаж, каторы куды лягчэй і калі хацяя можна збыць за добрые грошы.

Вядома, што як з яблыкаў, і грушаў, так сама і з розных ягадаў робяць віно. Хто захочэ гэтым заняцца, можэ навучыцца рабіць яго або на заводах—фабрыках, або с кніжкі.

І я, дзеля таго, што нераз заставаліся ў мяне сліўкі і іншые ягады і, або прыходзілося прадаваць за што ласка купцова, або яны глуміліся, гады чатыры таму пачаў прабаваць рабіць з ніх віно так, як гэта пісалося і раілося ў некаторых кніжках (напрыклад „Плодоводство, Гоше“).

Віно праўду кажучы, выходзіло ня кепскае, але вельмі многа клопату і пэцканіны, дый апрача таго сам пасудак і ўсе

прылады да яго даражэй абыходзіліся, чым варта было ўсё маё віно.

А ўсё-ж ткі шкада было слі ўкаў, што глуміліся, вось я і надумаў папрабаваць рабіць з ніх віно не па кніжцы, а самым простым спосабам, каб зьменшыць заход, а найважней— кошт самога вырабу.

Пасьля некалькіх розных пробаў, мне ўдалося ўрэшце зрабіць віно такое-ж самае смачное і трывалое, якое я рабіў сьперша па вучонаму, а ўсей розніцы, што сама работа была простая, лёгкая, дый танная.

Вось гэты спосаб. Узяць якую колечы дрэўлянную пасудзіну: цабэрак, дзежачку, бочачку з адным дном, ці што падобнае, абы толькі чыстую—без ніякога паху (найлепш, разумеецца, новую), у дне гэтай пасудзіны—каля клепак пракруціць невялікую дзірачку, заткнуць яе, дапасаваўшы добра, колічкам так, каб можна было яго выймаць. Пасьля с сярэдзіны пасудзіны прыкрыць шчыльна прыкручэную і заткнутую у дне дзірачку сітам, ці густым рэшатам у верх дном; умацаваць, каб яно не краталося і каб ягадная гушча не праціскалася пад яго (а ешчэ лепш—зрабіць другое устаўное дно, пакруціўшы ў ім маленькіе дзірачкі); тады парасьцісканые (можна гэта рабіць — хто не мае прэсу—рукамі) ягады, ці слі ўкі накідаць у гэты пасудак да паловы, або і вышэй.

Заправіўшы гэту кашу дражджыма (на вядро кашы трэба палажыць за 2 кап. дрожджаў), паставіць яе ў цеплаватым мейсцы, дзе яна і пачне бурыцца—фэрмэнтаваць.

Праз дні 3—4 час-ад-часу гушчу трэба памешываць, а калі перэстануць ужо моцна падыймацца бурбалкі, а гушча на дно ешчэ не аседае, стаўляюць пасудзіну з гэтай кашай на стол, ці зэдаль, падстаўляюць пад дзірачку вядро, выймаюць колічак і спушчаюць віно, ажно пакуль яно ўсё не сьцячэ. Трэба толькі пры гэтым пільнавацца, каб дзірка не захрасала і прачышчаць яе.

Як толькі віно перэстане ўжо ісьці, трэба ў гушчу наліць столькі вады, колькі зыйшло віна, добра і акуратна вымешаць і пачэкаць пакуль устаіцца, а сама гушча падыймецца ў верх; тады ізноў спусьціць так сама праз дзірачку віно, але до якой колечы другой пасудзіны, бо яно будзе ўжо слабейшае, дык мешаць яго с першым—не варта.

Можна ешчэ і трэйці раз наліваць вады, ды ізноў яе тым самым спосабам спушчаць, але з гэтаго ўжо выйдзе ня віно, а квас, хоць смакам і надта добры.

Пазліваўшы засобку першы і другі гатункі віна ў жбаны, а ешчэ лепш ў вялізарные бутлі (іх можна купіць у аптэчных складах па кап. 45 — 50 за штуку), паставіць у найзімнейшае мейсцэ — напрыклад — у склеп, ці ў яму, дзе хаваюць бульбу. Ізноў трэба чэкаць, ажно віно зусім не перабурыцца, а дрожджы і смуга пакуль добра не асядуць на дно; тады асьцярожна, каб не збаўтаць, зліваюць чыстае віно ў другіе бутэлькі да са-

мога верху, акуратна закарковываюць і ставяць ізноў у зімнае мейсцэ. З гэтага часу віно можна ўжо піць.

Калі-ж хто хочэ, каб віно яго было трывалейшае, смачнейшае і мацнейшае—трэба дадаваць цукру (можна пясковаго, бо ён танейшы, і чым болей цукру ўсыпаць (абы толькі не праз меру), тым лепшае будзе віно.

Цукар можна дадаваць адразу ў ягадную кашу с самога пачатку, але ешчэ лепш—сыпаць яго у чыстае віно, ў каторым ужо німа ні дрожджаў, ні смугі, тады ўвесь цукар пойдзе без ніякога упадку ў карысьць, а ўсыпаны ў ягадную кашу, частка яго ўсё-ж ткі там застанецца.

Толькі ешчэ раз скажу, што хоць віно і можна трымаць ці ў вялікіх бутлях, ці ў малых звычайных бутэльках, але трэба канешна наліваць іх паўнюсенькімі і пільнавацца, каб добра былі закаркованы, бо інакш яно хутка можэ заплесьніць і сапсавацца.

Каму прыходзіцца рабіць больш віна і класьці ў пасудзіну сьвежые ягады, ці сліўкі, запраўляць гэтые новые порціі можна асеўшымі ў віне дражджыма, каторые і ўліваюць туды ўсе зразу; гэткім парадкам не прападзе тая частка віна, што засталася у дражджох.

Уселякіе ягады, або і сліўкі, ці вішні трэба браць на віно толькі як найсьпялейшые.

З ігрушаў і яблыкоў хоць і можна так сама рабіць віно, але работа гэта ідзе ўжо марудней, ды і бяз некаторай прылады, як напр. — прэса — не аобйдзешся, бо рукамі не разатрэш, а і смак віна ня той.

У мяне ёсць віно, зробленае са сліўкаў, катораму пайшоў ужо чацьверты год; коляр, моц і соладзь ў ім такіе, што гандляры прыймаюць яго за найлепшае крымскае віно.

Праўда, ў мяне сліўкі з найлепшых гатункаў: прынц Эдінбургскі, Вікторыя і т. п., і цукру на запраўу я не шкадаваў, але і с простых сліўкаў, ці ягадаў — віно будзе ня кепскае.

Хто гэтай справай цікавіцца, той можэ бачыць маё віно, зробленае гэтым спосабам, як я апісаў, на выстаўцы Віленскаго сельска-гаспадарскаго таварыства ў Вільні ў месяцы верасні гэтаго году.

І. Ф. С.

*Смаргань.*

---

# Як гадаваць насеньне варыва.

Прыйшоў месяц кастрычнік—пара выбіраць варыва з агароду. Кожная добрая гаспадыня павінна аб тым падумаць, каб было чым засеяць агарод на другі год.

Купляць з году-ў год насеньне—дарага капітуе, апрыч таго нераз бывае, што купіць гаспадыня насеньне на рынку, або

ў якой колечы краме, засее агарод, ды нічога не ўзойдзе, бо, купляючы яго з няпэўных рук, можна нарвацца на старое, ні на што нязгоднае насеньне, каторае можэ ўжо гадоў з дзесяць перэвалялося у прадаўца. А бывае ешчэ і так, што купляюць насеньне і плацяць добрые грошы нібыто за нейкае заводнае, а тымчасам, калі і абойдзе,—то нейкая дзіч.

Набыўшы няпэўнае насеньне, ня толькі выкінем дарма грошы, але прападзе ўся наша праца і напрасна займем найлепшае мейсцэ, бо ў агародзе, каторы павінен даваць найбольшы даход. Дык вось дзеля таго найлепш выгадовываць, абы толькі ўмеючы, своё ўласнае насеньне.

Вядома кожнаму, што каб завесьці сваё насеньне, трэба пакінуць варыво на высадкі. Але якжэ гэта найчасьцей у нас робяць? На высадкі пакідаюць галоўкі капусты найгоршые, каторые ўжо не здатны да шаткаваньня; бручку, ці буракі таксама аткладаюць на высадкі найменшые і найгоршые.

— „Усё роўна, кажуць, і так зацьвіце, дык і насеньне будзе“.

Праўда: насеньне зьбярэцца і з дрэнных высадкоў, але варыво, каторае вырасьце з гэтаго насеньня, так еама будзе дрэннае, неўрадлівае. Хочучы-ж мець добрае варыво, трэба выбіраць на насеньне добрые высадкі.

Пачнем ад капусты. На высадкі трэба адабраць цьвёрдые, пекные галоўкі—словам такіе, якіе мы хочым, каб былі ў нас к налецьцю. Калі німа у сваім агародзе пекных галовак капусты, то лепш купіць дзе на старане 2—3 штукі на высадкі і тады ўжо завядзём у сябе добры сорт насеньня капусты.

На зіму галоўкі капусты трэба хаваць ў склепе, засыпаючы ўвесь качан па галоўку яго пяском. Ліст зьверху можна абарваць, бо ўсё роўна згніе. Калі-ж склепу німа, то можна хаваць ў халоднай каморцы, таксама закопываючы ў пясок, або нават у ямы, абы на высокім сухім мейсцы (так як бульбу), толькі падчас адлігі незабывацца аткрываць прадушыны.

На высадкі буракоў, бручкі, морквы і рэдзькі выбіраць трэба пекные, здаровые каліўя не малые, але і ня лішня вялікіе. Ліст абарваўшы, пакідаем толькі самую сярэдзіну, пры галоўцэ, каб мела аткуль пушчаць расткі на вясну. На зіму хаваць можна у такіх самых мейсцах, як і капусту, толькі ня трэба ў пясок садзіць, тыкеля класьці радочкамі, перасыпаючы пяском.

Калі будзеде так рабіць, то на другі год з гэтых высадкаў будзеце мець добрае, пэўнае насеньне і ня прыдзецца выкідаць на яго грошэй.

Добра ешчэ мець у сваім агародзе — пад рукой і агуркі. Кажуць некаторые, што ў вёсцы гэтаго не варта заводзіць, бо за дзяцьмі ня угледзіш і агурочка. Трэба дзяцей прывучаць, каб шанавалі чужое і шкоды нікому не рабілі, тады і агуркі можна сьмела садзіць.

На насеньне агуркі трэба пакідаць самые раньніе, пекные;

трымаць на градзе пакуль добра не пасьпеюць і не пачнуць трэскацца. Тады, выбраўшы з іх насеньне, перэпаласкаць на рэшаце, а пасля высушыць.

**Алена.**

*Хільчыцы. Віл. губ.*

# Работы у пчэльніку перад зімой.

Хто мае пчолы—павінен загадзя абглeдзіць добра стрэшкі, каб не зацекалі; калі хоць крыху дзе працягівае — паправіць.

У каго пчолы зімуюць на дварэ — аблажыць акуратна вульлі саломай, ці сухім лістам, прымешаўшы да гэтаго яловых, ці ялаўцовых лапак. Гэта дамешка вельмі важная рэч: мышы, баючыся калючых лапак, ніколі ня убьюцца да пчол.

Да лёткаў трэба зрабіць з дошчачак, ці гонцін праход. Лёткі звузіць, каб пралезьці праз іх не магло больш, як 2—4 пчалы. Затыкаць зусім лёткі — нельга: нават падчас вялікіх халодоў павінен быць пчолам доступ сьвежаго воздуху. Калі бываюць вялікіе сьнягі, мяцеліцы — трэба пільнавацца і адметаць сьнег, каб праход да лётак быў вольны.

Добра, калі падчас цёплай пагоды пчолы аблетаюцца, бо толькі ў лёце пчэла можэ выпаражніцца. а гэта патрэбна для іх здароўя. Седзючы праз даўжэйшы час у вульлі — ня выпаражніўшыся—ім цяжка прыходзіцца: ня толькі могуць запэцкаць гняздо, але і захварэць.

Часамі ўдарэ цяпло градусоў 8—10, тады можна і пастукаць па вульлі — пабудзіць пчол, каб вылецелі выпаражніцца. У халодную-ж пагоду ня толькі не павінна быць ніякай стуканіны па вульлі, але нават блізка іх. Хадзіць каля вульлёў і то трэба асьцярожна—ціха; бо пчолы зімой, каб ім было цяплей, зьбіраюцца у адзін клубок; калі-ж іх устрывожыць, - пчолы разлазяцца на ўсе бакі вульля і гінуць цэлымі грамадамі, або пачнуць аб'едацца мёдам і пахварэюць.

Вось дзеля гэтаго ніякая жывёла не павінна цягацца пад гэты час нават у той старане, дзе зімуюць пчолы; хіба што сам пчэльнік добра абгароджэны.

Хто мае сухі склеп, варыўню, ці землянку—можна ўнесьці на зіму туды пчол. Толькі трэба зважаць, каб там ня было ані за холадна (каб бульба ня мерзла), а і цепла не павінна быць болей як 5 градусоў.

Уносіць вульлі найлепш у халодную пагоду ў канцы Лістапада, калі ўжо міне страх, што пчолы могуць выляцець. Уносіць вульлі трэба вечарам і то ціханька, і асьцярожна.

Ставіць пчолы на зіму ў халоднай будыніне — карысьць не вялікая. Калі толькі вульлі стаяць у зацішным мейсцы — ў садзе, ці паміж будынін,—дык ніхай ужо лепей зімуюць на дварэ.

*Віл. губ.* **Пчаляк з Радашкавіч.**

# Дробные рады.

## Корм для кур.

Вядомая рэч, як карыстны корм для кур с касьцянай мукі,—шмат куды болей і раней пачынаюць яны нясьціся. Але у продажы касьцяная мука дарага каштуе, тымчасам лёгка яе зрабіць дома самому.

Пры кожнай гаспадарцы праз год немала можна назьбіраць касьцей; нятрэба толькі іх глуміць і выкідаць на двор. Сабраные косьці ўлажыць на колькі дзён у цёплую печ; там яны праз гэты час так струхлеюць, што пасьля іх лёгка можна стаўчы на парашок.

Даваць касьцяную муку курам трэба з вотрубамі, або с тоўчанай варэнай бульбай, замешываючы ў цёплай вадзе.

## Як лавіць пацукоу.

Пацукі—такая хітрая зьвярына, што ня лёгка з німі зладзіць. Есьць аднак спосаб на каторы яны паддаюцца.

Ттрэба ўзяць глыбакаватую бочку, наліць у яе крыху вады на дно і засыпаць льнянай мяккінай, на верх каторай папырскаць моцна падпражэнымі канаплямі.

Каб пацуком лягчэй туды было дабрацца, трэба да бочкі прыставіць наўскось дошку. Праз ноч не адзін госьць туды пападзе; але трэба што дня адтуль іх выймаць, бо калі хоць крыху засьмердзяцца, то ўжо хоць і дастанеш іх пазьней, але новые больш не палезуць. Так сама трэба што дня падраўнovываць мяккіну і падсыпаць сьвэжапражэных канопляў.

## Як адганяць кратоу.

Крот—гэта прыяцель хлебароба. Але хоць сабе і найлепшы прыяцель, калі часам ня туды забярэцца, куды трэба, то таксама ня добра.

Крот, рыючыся пад зямлёй і бегаючы па сваіх калідорах, шмат зьнішчожывае розных шкоднікаў для карэньнеў раслінаў.

Але, калі краты ўнадзяцца ў агарод, то там, рыючыся паміж густых карэньнёў варыва, самі ўжо гэтым робяць шкоды, бо падрываюць далікатные расьлінкі.

Каб не забіраўся крот у агароды, паміж варыва дзе-ня-дзе трэба насадзіць сланэшнікоў, каторых ён вельмі ня любіць, дык напэўна выстараецца сабе новай кватэры.

# Пачтовая скрынка.

**Белы-Берэг.** Мінск. губ. **Падпішчыку Ліхт—овічу.**

1) Кожная навука патрабуе ня толькі тэорыі, але і практыкі. Так сама вымагае гэтаго і навука пчэлярства. Але. як кажуць: „не сьвятые гаршкі лепяць“. Пры Вашай ахвоце — пэўна ускорасьці яе адалееце.

С паміж кніжак—напачатак раілі-б: „*Пчаліна жывелка малая, а карысьці дае многа*“ Гэнрыка Бярозкі; каштуе 30 кап. Напісана яна вельмі добра: ёсьць там усе важнейшые і патрабнейшые рады асабліва для пачаткуючых пчэляроў. Выпісаць яе можна з Беларускай кнігарні (Вільня, Завальная 7).

Што да куплі рамовых вульлёў, то выпісываць іх з дальшых старон—ад спэцыялістаў -- солана абойдзецца. Лепш ужо дастаць дзе бліжэй па суседству адзін такі вулей на мадэль і зрабіць колькі іх трэба дома.

Маючы кніжку „Як рабіць добрые рамовые вульлі“ (дастаць яе можна ў тэй-жэ „Беларускай кнігарні“ цэна 5 кап.), ў каторай так ясна і зразумела апісана ўся работа вульля, кожны крыху складнейшы столяр можэ зрабіць яго дома за танные грошы.

Апрача таго, хочучы сьлядзіць за агульным поступам пчэлярства, варта выпісываць спэцыяльную часопісь, напр.: месячнік „*Пчэлаводство*“. Адрэс: Вятка, кантора журнала „Пчэловодство“. Каштуе на ґод з дадаткамі 2 рублі.

2) „*Амэрыканскі Планэт*“ — не цацка дарагая, а сапраўды вельмі карыстная гаспадарская прылада: работа ідзе скора, лёгка і акуратна.

3) Зерняты ігруш і яблыкаў на засеў садовой школкі найлепш, разумеецца, браць з дзічак: самые пянькі бываюць трывалейшые і не так паддаюцца розным хваробам, але шмат хто засевае зернятамі і з добрых фруктоў.

Калі, як пішыце, так трудна дастаць у вас дзічак, то пачэкайце ешчэ крыху—пакуль настануць маразы: тады іх марожэнымі падвозяць с хутароў і засьценкаў на рынкі ў мястэчкі.

З найлепшых, бо паважна вядзецца, і ад Вас, бадай, найбліжэйшая школка фруктовая: ў Ігнатычах В. Ельскаго. Адрэсаваць можна праз Мінск. Там усяго—аб чым пытаецеся—можна дастаць.

4) *Аруд* — гэта разгародкі у сьвірне — куды ссыпаюць збожэ.

*Ляшыць* — значыцца паразганяць плугам засеянае жыта на загоны. Робяць гэтые барозны дзеля спаду вады.

# Курсы Садауніцтва і Пчэлярства у Вільні.

Ад першага Лістапада ў Вільні на Віленскай вул. ў доме № 29 пры кватэры Рэдакціі „Сахі“ будуць чытацца па садаўніцтву і пчэлярству вячэрніе лекціі (паміж 5-ай і 8-ай гадзінамі).

Чытаць будуць:

1) **Па садауніцтву і агародніцтву** — І. Паўловіч — устраіцель і заведуючы школай садаўніцтва.

2) **Па пчэлярству** — Пікель-Сэкрэтар Расейскаго Таварыства Пчэлярства ў Пецярбурзе.

3) **Як вырабляць віны с фруктау і ягадоу**—інжэнер Баршчэўскі—вучыцель хіміко-тэхнічнаго вучылішча.

4) **Навуку а грунце**—вучоны аграном С. М. Пушкар.

5) **Навуку а расьлінах**—Грыневіч — вучыцель Камэрчэскаго вучылішча.

6) **Халадзільные способы і іх значэньне** — інжэнер Качынскі с Пецярбургу.

Хто прабудзе на гэтых курсах і здасьць добра экзамэн будуць выдаваць ад Віленскай Практычпай школы садаўніцтва свядэцтвы.

Уселякіе спраўкі аб курсах можна даведацца ў п. Паўловіча. Адрэс яго: Вільня, Батанічная вул. № 1.

---

**Устраіцель і заведуючы Віленскай школай Садауніцтва** паведамляе, што ён гатоў прыняць да сябе у школу на навуку селянскіх дзяцей не малодшых 15 гадоў.

Кожны з іх атрымае дарма навуку; а также безплатные харчы і кватэру пры школе.

Даведацца аб гэтым трэба ў п. Паўловіча па адрэсу: Батанічная вул, № 1.

І. Пауловіч.

---

# ВЯЧЭРНІЕ КУРСЫ

## па садауніцтву і пчэлярству у Вільні (на Віленскай вул. № 29).

Даведацца аб ніх у п. **Пауловіча** па адрэсу: Вільня, Батанічная вул. № 1.

---

Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу**. Друкарня „Зніч“ Вільня.

# ВИЛЕНСКОЕ ОТДѢЛЕНІЕ

# РУССКО - АМЕРИКАНСКАЯ ЛИНІЯ

## Русскаго Восточно - Азіатскаго Пароходства



**ЕДИНСТВЕННОЕ**

**прямое сообщеніе**

**между**

**ЛИБАВОЙ и ГАЛИФАКСОМЪ**

**(КАНАДА)**

**безъ пересадокъ**

**10 дней пути**

Русско-Американская Линія Русскаго Восточно-Азіатскаго Пароходства является единственнымъ Пароходствомъ, поддерживающимъ прямые безпересадочные рейсы между ЛИБАВОЙ и НЬЮ-ІОРКОМЪ и ГАЛИФАКСОМЪ (Канада) спеціально для этой линіи оборудованными пассажирскими пароходами, которые кромѣ своей быстроходности, отличаются удобствомъ и комфортабельностью пассажирскимъ помѣщеній всѣхъ классовъ.

Переѣздъ изъ ЛИБАВЫ въ НЬЮ-ІОРКЪ или ГАЛИФАКСЪ совершается на первоклассныхъ почтово-пассажирскихъ двухвинтовыхъ пароходахъ: „ЦАРЬ“, „КУРСКЪ“, „РОССІЯ“ и „БИРМА“ и продолжается около 10-ти дней.

Пароходы отходятъ изъ Либавы регулярно каждыя двѣ недѣли по вторникамъ.

Относительно условій проѣзда и др. подробностей просимъ обращаться письменно или лично непосредственно въ наше Виленское Отдѣленіе, Вильна Конная ул. 4, у Острыхъ Воротъ телефонъ 10—63. Адресъ Главной Конторы: ЛИБАВА, Кургаузскій пр. 2, Собственный домъ.